# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №103

ТРАВЕНЬ 2007

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ



## НІ ЗНАКУ, НІ СЬЛЕДУ

За камуністычнымі часамі гэта было шанаванае прапагандовае сьвята.

Божухна! Як да яго рыхтаваліся! Якія плакаты былі! А якія заклікі ЦК КПСС кідаў у масы! Як шчыравала радыё і тэлебачанне, налягаючы на нашыя радасьці і выкрываючы іхнія заганы!

А якія ракеты валаклі на вайсковым парадзе ў дзень міжнароднай салідарнасьці працоўных -1 траўня, альбо па-камуністычна-расейскаму, 1 мая.

Насамрэч, першага траўня- старажытнае індаеўрапейскае паганскае сьвята вясны ў Савецкім Саюзе- па нашаму правільна- Радным Хаўрусе- было наскрозь фальшывым і пустым душняком.

І калі на Захадзе гэта сапраўды было дэманстра ваннем салідарнасьці працоўных, то ў СССР Першамай стаўся актам паказу пакоры працоўных камуністычным валадарам. Якое там сьвята, калі на дэманстрацыі працоўных і студэнтаў гналі прымусова і пад назіркам начальства!

Адмова ад удзелу ў масавым пакланенні камуністычнаму шайтану магла мець непрыемныя наступствы для працоўнага.

Дыктатарскі акупацыйны рэжым у Беларусі панічна баіцца масавых зборышчаў. Таму ніколі не зьбірае і не дазваляе дэманстрацый ў свой гонар.
От і цяперака на пошце можна было купіць паштоўку да «сьвята» Першамая, само ж сьвята сталася падпольным.

Толькі мулюнак ад былога сьвята застаўся. Прапала сьвята: ні знаку, ні сьледу.

Яно то праўда: раз німа ў Беларусі салідарнасьці працоўных,то на які ляд і тое некалі паганскае, а потым камуністычнае сьвята.

## ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ.

Відавочна падвесялеў народ у Дуброве.Пры новым начальніку пачалі праўдзівей плаціць, спакайней вырашаецца важная побытавая праблема- пасадка бульбы. Новы начальнік- ( а без начальніка беларусы жыць не могуць, ён ім як бы цёплы рэмень на зіму) чалавек маладзейшы і больш гуманны за папярэдніх: бессаромных п”яніц і казнакрадаў.

Вядома, не ўсім даспадобы новы венік.

Але такіх не надта шмат.

Седзячы на лавачцы, былыя члены арцелі, а цяперака штатныя чарнільшчыкі, разважаюць пра перспектывы новага дырэктара. Калі адужае старую гвардыю, то ўтрымаецца, як застанецца зь ёю, то ўсё будзе па-старому, кумекае народ. Сельская гаспадарка як была так і засталася пад камуністычным ярмом з занозаю. Цяжка тут варочацца.

## У ФУРАЖЫРЫ.

Першыя зрухі ў расстаноўцы кадраў зрабіў тутэйшы дырэктар зямлі і гаспадаркі.Пасьля пэўнага разьбіральніцтва на пасаду фуражыра пераведзены былы начальнік Ка. Кажуць, што ён вельмі падсуджуваў адным работнікам і абмінаў грашмі іншых.Да таго ж час ад часу злоўжываў фізічным узьдзеяннем на працоўных.

От так неабачлівыя паводзіны, незахаванне «Маральнага кодэксу будаўніка камунізму» падводзіць пыхлівых, фанабэрыстых і маральна нячыста-плотных кіраўнікоў сярэдняга зьвяна.

---

## БАГАТА ТРОПАСКУ ЗЬ НІЧОГА

Вялікага тропаску, цэлую гамарню, нарабіла расейскае прапагандовае тэлебачанне і дапаможнае яму «севера-западнае» тэлебачанне зь Менску з таго, што эстонцы перанесьлі статую савецкага салдата і некалькі парэшткаў савецкіх салдат у іншае, больш прыдатнае мейсца.

Маскалям бы маўчаць у анучку, але нелюбіць суседзяў- іхні нацыянальны залатаардынскі занятак. Маскалі штатна нелюбяць 1.украінцаў 2. грузін 3. літоўцаў 4. латышоў 5. чачэнаў 6.беларусаў 7. усіх астатніх

Фашыстоўская атрута нацызму моцна апанавала маскоўскае грамадзтва.

Ну, а нам, беларусам, за што нелюбіць тых, каго нялюбіць Расея? Нам, беларусам, да непрыяцеляў Расеі няма аніякае справы: «кажын народ сабе сам пан».

Ды толькі мы, беларусы, пазбаўлены права і магчымасьці сказаць сваё слова. Хіба «беларускім » тэлебачаннем кіруюць беларусы?

У Беларусі руйнуюцца могілкі, руйнуюцца старыя адметныя цэнтры гарадоў і пра гэта афіцыйныя ўлады маўчаць.А вось як дзе што чужое зачапілі, то прапагандысцкі Менск тут жа зьвягае і лемантуе з падваротні.

Маскоўскай імперыі пастаянна патрэбныя ворагі. А нам чужыя навошта?

Тут у Дуброві, у Кабульшчыне раённыя ўлады змусілі нейкую арганізацыю паладзіць вайсковае пахаванне. Дык работнікі за свой кошт памянялі пліты, выслалі бетоннымі цаглінамі мейсца вакол магіл. От толькі статуй застаўся чорны з чорным флагам.

А на 9 траўня прыходзіць усё меней люду. Колькі ж можна назад азірацца?

Эстонцы зрабілі талкова. Да таго ж яны памятаюць, што камуністы заваявалі іх у 1940 годзе, а пасьля вайны хацелі выслаць з Радзімы. То ці ж вызвольнік для іх савецкі салдат?

## ВАЙНА СПАДАРОЖНІКАВЫМ АНТЭНАМ

Не пасьпелі беларусы наглядзецца на чужое тэлебачанне праз спадарожнікавыя міскі, як дыктатурка ўгледзела ў гэтым непарадак.Па гарадох пайшоў загад здымаць тыя місы і браць дазвол на ўстаноўку нанава. Кажын дазвол каштуе грошай. Гэта раз. А два- гэта тое, што на кастрычнік запланаваны запуск незалежнага беларускамоўнага каналу. От гэтага і незалюбіла болей за ўсё бязграматная ўлада.

Да вёсак такое можа няхутка дапаўзьці. Але можа.

Ну, да ўсяго дацягваюцца ўчэпістыя ручкі гаўнянай дыктатуркі.

---

## ЛАГЕР.

Скончыўся навучальны год, але ладнага дзяцей працягваюць таўкціся ў школе ў гэтак званым «аздараўленчым» лагеры. З два дзесяткі дзяцей тырчаць падназіркам настаўнікаў ад 8 да 16 гадзін у школе, дзе іх двойчы на дзень кормяць. Тыя гады карміліі тры разы.Да таго ж сёлета кожнае дзіця мусіла заплаціць мо па шэсьць тысяч за карыстанне вадою. Так ладзіцца гэтак званае «аздараўленне» дзяцей.

Не аздараўленне гэта, а парнаграфія.

Ды не гнявайцеся. Дыктатурка «аздараўляе» як умее.

## ШАБАС ВАКОЛ ЕЎРАВІЗІІ.

Кажын год дзе-небудзь у Еўропе ладзіцца конкурс гідкай поп-музыкі. Беларускі рэжым таксама бярэ ў ім удзел і прагне перамогі. Конкурс гэты стаў конкурсам кашалькоў і зусім не пуп зямлі, як можна падумаць, пачуўшы ажыятаж вакол гэтай сьмешнай падзеі.

Вось і сёлета Беларусь прадстаўляў нейкі Дзіма Калдун. Апякалі яго, як і ранейшых сьпявачак, расейскія бізьнесмэны. І хоць Той Калдун быў як бы ад Беларусі, маскальскія каментатары іначай як «наш Дзіма» яго не называлі. Прыватызавалі, значыцца.

Беларускія прадстаўнікі на Еўравізіі свае пяянні бляялі толькі па расейску ці па ангельску. То бок яны нічым не вызначаліся з таго статку, што прыехаў павыстаўляцца на конкурсе.

Дзіма Калдун заняў далёка не прызавое мейсца. Заслужона.

Словам, піску было багата, а выйшаў пшык.

Застаецца дадаць, што маскалі пагана разьбіраюцца ў беларускай мове. Калдун па-расейску і па-беларуску зусім розныя рэчы.

---

## НАКОНТ ІЛЬГОТАЎ

Дыктатар,якому кагэбісты выдумалі і прышчапілі пэўнаму пласту насельніцтва мянушку «бацька» раптам павёў сябе як ведамы персанаж «Мёртвых душ» Плюшкін. Палата прадстаўніц, і, канешне ж Валянціна Ка валёва з Сьветлагорскай выбарчай акругі №48ў адзіным парыве нішчымных і нікчэмных сэрцаў пастанавілі адабраць ад старцоў торбу. Яны ста галаса мі супраць аднаго вы рашылі адабраць ільго ты ад самых бедных:ад пеньсіянераў, студэнтаў і школьнікаў, ад інвалідаў і донараў. Што далі ўзамен? Ні хрэна.

Дурнейшая частка грамадзтва вякае па-тэлевізарнаму, маўляў, зашмат у нас розных ільготнікаў. Мо і так. Але гэта самыя малазабясьпечаныя людзі.Ільготы былі не ад раскошы, а ад беднасьці. Цяперака бедныя стануць шчэ бяднейшымі, а няшчасьнікі-няшчасьнейшымі. Хвантазіям на тэму 500даляравага заробку надыйшла хана.

Зрэшты, не ўсё кепска прадумана.Дыктатар пакінуў сабе прастор для манэўру: ён можа цмокам выпаўзьці на тэлевізар і, ў залежнасьці ад акалічнасьці, раўнуць ці лісьліва абвясьціць, што дорыць народу, каторы ён на руках носіць, пэўныя ільготы.От тады ізноў зазьвіняць цымбалы і кімвалы, зайграе ў дудку Фінберг.

Але ёсьць і іншы бок медаля:рэндзячы і скуголячы пра «мала грошай у казьне» дыктатар нат палцам не закрануў раскошныя прывілеі ды ільготы сваёй разбэшча най сваволлем наменкла туры.Яна выведзена з-пад дзеяння Крымінальнага Кодэксу,яна мае даплаты і заробкі ў да лярах,розныя ільготы і кампенсацыі на транспарт, аздараўленне і лячэнне, на жыллё. На ета ў казённай шабеце талераў хапае.
Дыктатар, зьвягаючы пра сваё непрыняццё рэзкага распластавання грамадзтва на купку багатых і безьліч бедных насамрэч робіць так, што сапраўды ягоны прагноз зьдзейсьніцца.

Пры такім рэжыме мы ўсе будзем беднымі і хворымі.

Крый, Божа, каб гэта не было, але дыктатар упэўненай рукою валачэ нас прэч ад дабрабыту.

## ЗЬНЮХАЛІСЯ

Надоечы прыязджаў да нашага дыктатара іранскі прэзідэнт Махмуд. Мы мала ведаем пра Іран, хіба што пра тое,што тамака крэпка нялюбяць Амэрыку ды маюць крэпкую дзяржаўную ідэалогію - іслам. Махмуд і іранскія мулы хочуць атамнай бомбы. Дыктатар Беларусі хоча нафты.Іранцы хочуць наладзіць у Беларусі вытворчасьць іранскіх легкавушак- гэнае дабро нікому нідзе не трэба.Любяцца дыктатуры Дзіўныя і «небясьпечныя сувязі» ў дыктатара.

## ХАЛАДАЕ?

9 ТРАЎНЯ расейскі імператар Пу пачаў палохаць Еўропу новай халоднай вайной, сказаўшы, што Расея нацэліць ракеты на Еўропу, калі амерыканцы паставяць свае радары ў Чэхіі і Польшчы. Амерыканцы кажуць, што ставяць радары супраць магчымай ракетнай атакі з боку Ірану і Паўночнай Карэі.

Хутней за ўсё маняць, бо ні Іран, ні Паўночная Карэя не маюць такіх доўгіх ракет.

Угэтую сварку паноў улез і наш наш дыктатар, паабяцаўшы памагаць сваім шчытом Расеі. Нам гэтага толькі не хапала! У савецкія часы на Беларусі стаяла 40%( ажно сорак працантаў!)савецкіх ядравых ракет.Канешне, на нас былі нацэлены сотні атамных ракет з Еўропы і ЗША. Здавалася, вырваліся з-пад іхняга прыцэлу, дык нахер туды ізноў лезьці? Дык не ж! У шчыты Расеі прэцца!

Ад Беларусі да Амэрыкі шмат вёрст. То хай, нахрэн, пруць свае расейскія радары і ракеты да компаньеро Кастры на Кубу і да компаньеро Чавэса ў Венесуэлу. Адтуль да Амэрыкі рукой падаць.

А найлепей было б падумаць пра ўнутраныя праблемы, пра лёс Зямлі, а не цягацца з гаўнянымі радарамі ды ракетамі ды не псаваць сабе і людзям нэрвы

А беларусам час падумаць, ці варта з такой Расеяйваждацца?

## КІТАЙСКАЯ ПАЧВАРА.

У 1994 годзе Лука абяцаў запусьціць заводы. Слова «запусьціць» у нашай мове шматзначнае і мае нават супрацьлеглыя значэнні. Таму цяжка сказаць, што меў на ўвазе цяперашні дыктатар, які з жабракоў вылез у міліярдэры. У Сасновым Бары іёе малюсенькі заводзік, які сапраўды, запушчаны. У сэнсе,як карова. Замест таго, каб аддаць яго сваім беларусам, дбаць пра нацыянальнае, дыктатар паабяцаў яго кітайцам.Скажыце: чаму кітайцам можна, а беларусам-не? Чаму ў камуністычным Кітаі ў народу іёе грошы на беларускі заводзік, а ў рынкавасацыялістычнай- тфу, гадасьць!- Беларусі на кітайскі няма? Чаму мы не чулі, што беларусы купілі нешта істотнае- завод, фірму, грамадзкую сральню- за мяжою? Дыктатар і рэжым выступаюць, як здраднікі нацыянальных інтарэсаў і прадаўцы Беларусі чужынцам!

Праваслаўна-камуністычны шацілкаўскі «Ранак» радаваўся: прыедуць кітайцы, створаць працоўныя месцы... Панове!! Кітайцы прыязджаюць з сваімі працоўнымі на свае працоўныя мейсцы, а нашыя, можа стаць, падмятаць вуліцы ля іхніх фанзаў будуць. Унь у Еўропу навалаклося разнамаснай набрыдзі, адцурацца нельга. А кітайцы статкамі скупляюць усё, што прадаецца.

З расхрыстанымі межамі на ўсходзе, з бязграматнымі шкуратамі за начальскімі сталамі, з олвізнымі «дэпутатамі», што ўмеюць адно, спусташаць нашыя кашалькі наша нацыя і наша краіна ў вялікай небясьпецы.

---

## КАНЕЦ ШКОЛЫ.

Васьмёра дзяўчат і адзін юнак скончылі сёлета Дуброўскую адзінаццацігодку.

Зараз у іх невялікія іспыты, а той, хто захоча паступіць, будзе здаваць тэсты (панашаму, таксама іспыты).

Дзевяты клас сёлета экзаменаў не мае, бо вучыцца па недарэчнай 12гадовай сістэме. Так што ў тэхнікумы паступацьме небагата людзей.

Выкладчыкі ВНУ жаляцца, што якасьць ведаў школьнікаў стала падае. А чаму і не, калі школа займаецца не тым, чым сьлед?

---

**Радыё «СВАБОДА»**
Слухай штодня ад
18.00 да 24.00
і ад 06.00 да08.00
31 і 41 метр кароткіх праўдзівых хваль

Трагічна пайшла
ад нас маладая
дзяўчына
**БЕЛАЯ**
**Наталля Мікалаева**
Хай Пан Бог атуліць
яе сваёю ласкаю.

Друкарня І. Масьціцкага
100 асобн. Заказ № 103